© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# ПАГОНЯ

заснавана ў 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 24 (171) • 14 — 20 чэрвеня 1996 г. • Кошт свабодны

Грамадзка-палітычная газета


## У АРШАНСКІХ КУРАПАТАХ

**Другога чэрвеня на Сьвятую Троіцу ў Аршанскіх Курапатах (Кабылянская гара ля вёскі Андрэеўшчына) адбылося ўшанаваньне памяці ахвяраў бальшавіцка-сталінскага генацыду.**



Вёў мітынг-рэквіем сябар Сойму і Управы БНФ "Адраджэньне", куратар Віцебскай вобласьці Алесь Чахольскі. Ня першы год у дзень Сьвятой Троіцы сябры аршанскай і талачынскай радаў БНФ аддаюць даніну памяці загінуўшым на Кабылянскай гары. Але сёлета выступы старшыні Талачынскай раённай рады БНФ Анатоля Пятровіча, старшыні Аршанскай гарадзкой рады БНФ Юрыя Санько, вязьня сталінскага ГУЛАГу Маі Кляшторнай былі напоўнены асаблівай трывогай. У Беларусі зноў зьявіліся палітычныя вязьні. Зноў устае прывід Курапатаў, Кабылянскай гары, Ігумена і мноства іншых месцаў масавых рэпрэсій. Не прыйшлі адслужыць сьвятую імшу па ахвярах ні каталіцкі, ні праваслаўны сьвятары. Хаця першымі на Кабылянскай гары былі расстраляны менавіта сьвятары з Аршанскай перасыльнай турмы. Не прыйшлі, бо пабаяліся. Няма сярод дзесяці запаведзяў хрысьціян запаведзі "Ня бойся", але і няма "Пакінь паству сваю ў бядзе", а на Беларусі бяда. У тыя гады з чатырохтысячнага Талачына толькі на Кабылянскай гары было расстраляна 308 чалавек, фактычна кожны дзесяты. Маліцеся тыя, хто пабаяўся, бо ваш страх можа стаць прычынай, што ўсё паўторыцца.

**СТАНІСЛАЎ СУДНІК**

## САМАГОНКА "ТЭРМАЯДЗЕРНАЯ"

Яшчэ ў красавіку жыхары вёскі Крупава Лідзкага раёна ў лесе знайшлі ладную кучу латунных трубак. Гаспадарлівыя людзі разабралі знаходку па падворках. Не сакрэт, што сёй-той пусьціў файны тавар на выраб такой прылады як самагонны апарат, і толькі адзін чалавек засумняваўся. Ён аднёс метал у санстанцыю. Вынікі праверкі выклікалі ў супрацоўнікаў СЭС лёгкі шок. Узровень радыёактыўнасьці металу ў 600 разоў перавышаў норму. Год таму газеты паведамлялі пра затрымку на беларуска-летувіскай мяжы партыі радыёактыўнай медзі. Ці не адтуль "крупаўскі скарб"? А пакуль людзі зносяць небясьпечнае багацьце ў мясцовы сельсавет, нават у выглядзе часткаў апаратаў.

**ВАЦЛАЎ СЯРПІНСКІ**

## САЛІДНАЯ КАМПЕНСАЦЫЯ!

**Дзьвесьце тысячаў рублёў кампенсацыі за страты, нанесеныя незаконнымі рэпрэсіямі, атрымала днямі гарадзенка Галіна Грыцкевіч.**

23 студзеня 1945 года яна, сакратар выдавецтва "Заходняя магістраль" была арыштавана супрацоўнікамі Упраўленьня НКУБ па Гарадзенскай вобласьці - абвінавачваньне ў здрадзе Радзіме (славуты 58-мы артыкул). Асобая нарада МУС СССР прыгаварыла Галіну Іванаўну да трох гадоў выпраўленча-працоўных лагераў. Рэабілітавана сп. Грыцкевіч была толькі ў жніўні 1994 года.

Не дачакаліся аналагічнай кампенсацыі Іван і Ядзьвіга Самцы, якія незаконна правялі чатыры гады (з 1952 па 1956) на сьпецпасяленьні. Чатырыста тысячаў за гэтыя пакуты атрымае іх дачка Алена Паўлоўская.

**ВІКТАР ЛЮДВІКОВІЧ**

## АДМОВІЛІСЯ АД ДЗЯЦЕЙ

**З-за фінансавага становішча акцыянернае таварыства "Гроднаабутак" адмовілася ўтрымоўваць два свае дзіцячыя садкі - N 66 і 88.**

З 1 ліпеня абедзьве гэтыя дашкольныя ўстановы пераходзяць на баланс аддзела адукацыі Кастрычніцкага раёна. Гарадзенскія ўлады абавязалі, аднак, кіраўніцтва прадпрыемства захаваць сацыяльныя ільготы для супрацоўнікаў дзіцячых садкоў.

**ВІНЦУК МАЛЬСКІ**

## "КАЛОЖА МАЯ, ПРЫГОЖАЯ..."

**Комплекс праблемаў, што зьвязаны з рэстаўрацыяй Каложскай царквы, разглядаўся ў сераду на рабочай нарадзе ў Горадні. З Менску прыязджаў міністр культуры краіны Аляксандр Сасноўскі. Прысутнічалі таксама яго намесьнікі, рэстаўратары, архітэктары.**

Сталічныя госьці пабывалі ў храме, дзе азнаёміліся зь сітуацыяй вакол Каложы. Затым у аблвыканкаме на рабочай нарадзе абмяркоўваліся меры, якія трэба прыняць у першую чаргу для выратаваньня помніка беларускага дойлідства. Як выказаўся міністр, ва ўрада "ёсьць імкненьне знайсьці грошы на рэстаўрацыю Каложы". Але пакуль у бюджэце такіх грошаў няма. Праблему з выратаваньнем храма мяркуюць узьняць да агульнанацыянальнага ўзроўню, што дапаможа знайсьці фінансы на аднаўленьне Каложы.

Міністэрства культуры зьбіраецца зьняць відэафільм пра гэты унікальны помнік беларускага дойлідства, які будзе дэманстравацца на рэспубліканскім тэлебачаньні.

Што тычыцца самой рэстаўрацыі, то на працягу лета-восені будуць весьціся інжынерныя назіраньні за станам помніка, а затым зробяцца адпаведныя высновы. Другую рабочую сустрэчу па рэстаўрацыі Каложы мяркуецца правесьці ў Горадні ў лістападзе.

**М.ВАСІЛЕВІЧ**

## ЖЫВЕ ВОЙСКА - ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ?

**6 чэрвеня штаб Гарадзенскага 28-га армейскага корпуса ладзіў брыфінг. Перад рэпарцёрамі выступілі начальнік штаба корпуса палкоўнік Юры Сяменчанка, намесьнік каманьдзіра па выхаваўчай рабоце палкоўнік Сьвятаслаў Ліс, абласны ваенкам палкоўнік Іван Тустаў, каманьдзір 6-ай механізаванай брыгады Аляксандр Нікіцін і ягоны намесьнік па выхаваўчай рабоце палкоўнік Аляксандр Лапковіч.**



У гэты ж дзень журналістам паказалі, як на Гожскім палігоне каля Горадні танкісты праводзілі планавую штатную стральбу. Таксама ішлі заняткі ў матастралкоў.

Вайсковыя каманьдзіры былі надзвычай шчырымі і адкрытымі. Яны адказалі практычна на ўсе пытаньні. Адкрытасьць вайскоўцаў настолькі не стасавалася з сёньняшняй закрытасьцю і запалоханасьцю ў іншых дзяржаўных установах, што прымушала шукаць яе прычыны.

Ня тое, каб вайсковыя кіраўнікі раптам зрабіліся наіўнымі, як сьвятыя поломнікі. Але яны ўсьведамляюць, што сёньняшняя роля вайскоўцаў у грамадзтве не адпавядае таму аб'ектыўнаму значэньню войска, якое акрэсьліваецца традыцыйна як хрыбет дзяржавы. На брыфінгу было шмат гаворана пра тое, што паважаюць у сьвеце толькі дужыя дзяржавы, што М.Гарбачоў разваліў магутнае войска, што бязглуздна парэзалі танкі і г.д.

Аддаючы даніну сучаснасьці, каманьдзіры казалі пра нацыянальную накіраванасьць войска, асабістую вайсковую канцэпцыю. На пытаньне, што зьяўляецца ідэйным грунтам выхаваньня беларускага байца, начальнікі распавядалі пра славянскую еднасьць і немагчымасьць канфліктаў паміж беларусамі, рускімі і ўкраінцамі. Куды, згодна з гэтай канцэпцыяй, выпадаюць неславяне і, напрыклад, палякі альбо чэхі, не тлумачылася. Выразная панславісцкая ідэя ў выкананьні беларускіх палкоўнікаў выглядае досыць недарэчна. Замест таго, каб зьвярнуцца да натуральнай любой дзяржаве ідэі нацыянальных інтарэсаў (У.Чэрчыль: "У Брытаніі няма пастаянных ворагаў ці сяброў, у Брытаніі ёсьць пастаянныя інтарэсы"), зноў каманьдзіры зьвяртаюцца да нейкіх па-за нацыянальных каштоўнасьцяў, якія на самой справе служаць камуфляжам імперскай палітыкі Крамля.

Крыўдавалі на недастатковае фінансаваньне (чаму на МУС выдаюцца такія вялізныя грошы?), на тое, што афіцэры трымаюцца на энтузіязме, а не на справядлівай ацэнцы іх працы (250 афіцэраў 6-й брыгады ня маюць кватэраў), на тое, што грамадзкая думка ад часоў Гарбачова пагарджае арміяй, што ва Узброеныя Сілы прызываюцца тыя, хто не прайшоў адбору ў сьпецпадраздзяленьні.

Рэпарцёрам далі пастраляць з пісталетаў, аўтаматаў і кулямёту, прадэманстравалі дзеяньне гранатамёту. Зрабіўшы ў "малако" 8 стрэлаў, карэспандэнт "ПАГОНІ" не натхніўся мілітарысцкім духам і нянавісьцю да НАТА. Абсалютна не шкада было таксама зьнішчаных танкаў, беларускай чырвонасьцяжнай акругі, былога ДОСААФа і страчанай Прыбалтыкі.Нам бы з сёньняшнім днём разабрацца!

**Сяргей САМАСЕЙ.**
**Фота У.УЛАДАСЕВІЧА.**

*Рукапіс гэтага артыкула быў "арыштаваны" уладамі пад час апошняга вобыску ў штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту ў Менску. Аднак, нягледзячы на незаконную канфіскацыю, рукапіс знайшоў дарогу да чытача.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Некалькі гадоў назад, здаецца дзесьці ў 1993 годзе, мне прыйшлося пісаць пра сёньняшні дзень Беларусі ў артыкуле на рускай мове "О русском империализме и его опасности". Рэакцыя рускай пятай калоны камуністаў і кадэбістаў была тады блізкая да істэрыкі. Зразумела чаму - дакладнае трапляньне. Варта ўспомніць іх лямант. Беларусы, як звычайна, нічога не зразумелі. Многія, здаецца, мала што разумеюць і цяпер. Сьляпы дарогі ня бачыць. Аднак я буду тут, як і раней, гаварыць пра рэальнасьці, а не пра фантомы ў галовах.

Я разумею, што ізноў прыйдзе папуліст "вася" і павядзе "фантамасы" за сабой. Але мне ня гэта цікава. Мая задача - дапамагчы ім стаць здаровымі людзьмі беларускай нацыі, здольнымі адэкватна ўспрымаць рэчаіснасьць і адрозьніваць дабро ад ліха, праўду ад хлусьні, сяброў ад ворагаў. Беларусі патрэбен народ, а не натоўп. Натоўп шукае правадыра. Народ - змагаецца за правы.

**(Працяг на стар. 7)**





**Застаўся апошні дзень!**

**Падпісны індэкс 63124**

Кошт на месяц - 8 тыс., на квартал - 24 тыс., на паўгоддзе - 48 тысячаў рублёў.




© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ФРОНТ, ЯК І НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ, ЗАБАРАНІЦЬ НЕЛЬГА

**Восьмага чэрвеня 1996 года адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Сойм разгледзеў пытаньні: "Аб палітычных падзеях апошняга месяца і сітуацыі вакол Народнага Фронту", "Аб падрыхтоўцы да канферэнцыі БНФ", "Аб сітуацыі ў беларускім школьніцтве перад чарговым навучальным годам", а таксама арганізацыйныя пытаньні.**

Сойм разгледзеў сітуацыю пасьля другога папярэджаньня з боку ўладаў і прыйшоў да высновы, што забараніць Фронт улады ня могуць. Гэтую пазіцыю вельмі дакладна выказала спадарыня Вера Чуйко. Яна, ў прыватнасьці, адзначыла, што "права грамадзянам Беларусі на аб'яднаньне гарантавана Канстытуцыяй, таму ніхто яго адабраць ня можа. Іншая справа, што Фронт могуць пазбавіць юрыдычнай рэгістрацыі, але гэта ня можа мець асаблівага значэньня, бо Фронт існуе не на паперы, а рэальна." Было адзначана, што пасьля першага траўня папярэджаньні атрымалі усе партыі, якія ўдзельнічалі ў сьвяце, акрамя свабодных прафсаюзаў, таму што свабодныя прафсаюзы пазбаўлены рэгістрацыі.

Сойм пастанавіў у першай палове ліпеня правесьці канферэнцыю БНФ. Нормы прадстаўніцтва: па аднаму чалавеку ад кожнай раённай (гарадзкой) арганізацыі, па аднаму чалавеку ад кожнай моладзевай арганізацыі БНФ. Запрашаюцца ўсе сябры Сойму і Рэвізійнай камісіі БНФ, а таксама па два чалавекі ад кожнай камісіі Фронту. Месца і дата канферэнцыі будуць вызначаны дадаткова.

Сойм даручыў на час адсутнасьці на Беларусі Зянона Пазьняка абавязкі старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" выконваць Лявону Баршчэўскаму. Сойм абраў яшчэ двух сакратароў Управы БНФ: па моладзевых пытаньнях Уладзіміра Несьцера, па спартовых - Анатоля Крыварота. Сойм прызначыў Сяргея Папкова кіраўніком штабу па вылучэньні і абраньні Зянона Пазьняка ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь на выбарах, якія маюць адбыцца восеньню.

У рабоце Сойму прынялі ўдзел Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык.

Сойм пацьвердзіў намер аб правядзеньні масавай антыфашысцкай акцыі 22 чэрвеня. Акцыя павінна адбыцца на плошчы Перамогі. Дазвол на яе правядзеньне пакуль не атрыманы.

**СТАНІСЛАЎ СУДНІК**

## КРОЎ ЛЮДЗКАЯ - НЕ ВАДЗІЦА

**Сёньня міліцыянты лупцуюць людзей дубінкамі, а пасьля цягнуць у няправедны суд. Там яны ілжыва сьведчаць пра тое, што чалавек нібыта кідаўся на міліцыянтаў і пры гэтым нецэнзурна лаяўся. Любы суддзя дасканала ведае, што асуджае невінаватых людзей. Любы міліцыянт ведае, што б'е нізашто. Любы пракурор бачыць, што адбываецца нахабнае парушэньне ўсіх законаў. Аднак...**

Цалкам верагодна, што неадукаваныя малодшыя чыны з МУС ня ведаюць гісторыі і ня чулі, як у былым СССР распраўляліся з тымі, хто рабіў за праваахоўную чорную працу (для вас, хлопчыкі, сьпецыяльна нагадваем рассталяных энкаведыстаў: Г. Ягода, М.Яжоў, М.Берыя, Л.Цанава). Магчыма, суддзі спадзяюцца: ніхто ня зможа даказаць, што яны наўмысна судзілі невінаватых. Пракуроры думаюць, што можна будзе ўсё патлумачыць недасканаласьцю законаў.

Але ілюзія аб беспакаранасьці разьбіваецца аб рэальныя гістарычныя факты.

У Албаніі суд прысудзіў да пакараньня сьмерцю былога старшыню Вярхоўнага Суда Араніта Чэлу, былога генеральнага пракурора Рапі Міно і былога шэфа тайнай паліцыі "Сігурымі" Зіліфтара Рамізі. Яны асуджаны за "генацыд, злачынствы супраць чалавечнасьці і палітычны перасьлед". Да слова заўважым, што Беларусь апошнім часам вельмі падобная на Албанію дваццацігадовай даўніны.

Калі не пераконвае прыклад падобнай на Беларусь, але далёкай Албаніі, то звернемся да блізкай Польшчы. Сойм Польшчы прыняў новы закон, згодна з якім на злачынствы, зьдзейсненыя пад час таталітарызму па палітычных падставах, даўнасьці тэрмін не ўплывае. Гэта значыць, што цяпер можна завесьці справу на любога польскага энкаведыста і, у прынцыпе, таксама расстраляць.

Так ці інакш, адальюцца людзкія сьлёзы.

**МІХАСЬ КАПЯЛЮШ**

## ГРОШЫ ПАЛІТЫЧНЫМ ВЯЗЬНЯМ

450 тысячаў рублёў сабралі сябры Гарадзенскай рады БНФ пад час правядзеньня 7 і 8 чэрвеня пікетаў ля крамы N 17 па вуліцы Паповіча і ля Дома сувязі. Пікеты былі выстаўлены ў падтрымку ахвяраў палітычных рэпрэсій у Беларусі. Сабраныя грошы ўжо перададзены сваякам людзей, якія да гэтага часу ўтрымліваюцца за кратамі за ўдзел у акцыях пратэсту супраць усталяванай у краіне дыктатуры.

**В.ДРЭМА**

## ШТО ПРАПАНУЕ ГРАМАДЗКІ КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ?

### ІВАН НІКІТЧАНКА ПРА ЭКАНАМІЧНУЮ СІТУАЦЫЮ І ЭКАНАМІЧНУЮ ПАЛІТЫКУ Ў КРАІНЕ

**Выступаючы на Сойме БНФ прадстаўнік грамадзкага Кабінета Міністраў БНФ, доктар эканамічных навук Іван Нікітчанка адзначыў,што спад вытворчасьці за чатыры месяцы 1996 года склаў 9%, у сельскай гаспадарцы - 6 %. Адбываецца рабунак суб'ектаў гаспадараньня і грамадзянаў. Так, Беларусь купляе нафту па 74 даляры за тону, а прадае нафтапрадукты па 280 даляраў. "Навар" нафтава-дзяржаўнай мафіі складае 300 працэнтаў. У камунальных выдатках доля нафты складае ўсяго адзін працэнт. Разам з тым, рост кватрплаты ўрад тлумачыць менавіта ростам цэнаў на нафту.**

Падаткі павялічваюць цану тавару ў 1,8-2,0 разы. Мытны саюз з Расеяй, падгонка нашых мытных правілаў пад расейскія павялічваюць цану тавараў, якія прывозяцца і вывозяцца, у 1,6 -1,8 разы (мытная пошліна - 15 %, падатак на дабаўленую вартасьць - 20%, акцызы).

Дзяржаўныя пошліны дасягнулі абсурдных памераў. Каб атрымаць акт на карыстаньне зямлёй, трэба заплаціць 650 000 рублёў. Такім чынам, адна літара, упісаная чыноўнікам у гэтую паперу цягне на 28 000 рублёў.

На пачатку траўня валютны рэзерв краіны складаў 20 мільёнаў даляраў. Зараз рэзерву няма ніякага.

Краіна раскрадаецца. Так, у 1991 годзе асноўныя фонды сельскай гаспадаркі краіны складалі 15,6 мільярдаў даляраў. У 1995 годзе ад іх застаўся адзін мільярд. Прэзідэнт узяў зь бюджэта на патрэбы сваёй адміністрацыі 500 мільёнаў даляраў. Гэта пазабюджэтныя выдаткі. Грошы фактычна скрадзены.

За першыя чатыры месяцы паступленьні ў бюджэт склалі 66% ад плану, у траўні ўсяго 12%. Выдаткі ідуць поўным ходам.

Што прапануе Грамадзкі Кабінет Міністраў БНФ? Увесьці плату за транзіт усіх грузаў праз Беларусь. Гэта дасьць 1,2-1,5 мільярдаў даляраў. Зьняць падаткі, якія адносяцца прадпрыемствамі на сабекошт-цэны ўладусь у 2-2,5 разы. Скараціць апарат кіраваньня на дзьве трэція. Скараціць выдаткі на войска і міліцыю шляхам ліквідацыі ўсіх сьпецназаў, амонаў і т.п. на 50%. Вярнуць у бюджэт грошы, нарабаваныя адміністрацыяй прэзідэнта.

## ГРЫБ ДАПАМОГ ДЗЯТЛАЎЦАМ

Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб дапамог Дзятлаўскаму тэрытарыяльна-медычнаму аб'яднаньню ў набыцьці лекаў. Раёну выдзелена 16 найменьняў прэпаратаў замежнай вытворчасьці, якіх павінна хапіць да канца года.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**




## АЛЕГ ТРУСАЎ ВЫЙШАЎ З ВЫКАНКАМУ ГРАМАДЫ

**Восьмага чэрвеня ў Менску адбылося паседжаньне Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Рада разгледзела пытаньні : "Аб стратэгіі і тактыцы БСДГ", "Аб стаўленьні партыі да Дамовы аб стварэньні супольнасьці", "Аб аб'яднаньні з Партыяй народнай згоды".**

Рада вострa крытыкавала сяброў БСДГ, якія падтрымалі дамову аб Супольнасьці. Найболей "дасталося" Пятру Краўчанку, які, як вядома, галасаваў за ратыфікацыю дамовы.

Рада прыняла рэзалюцыі з абурэньнем супраць высылкі зь Беларусі прадстаўнікоў польскай "Салідарнасьці" і з пратэстам супраць рэпрэсій у дачыненьні да БНФ.

Рада прызначыла на 29 чэрвеня аб'яднаўчы з'езд. Фактычна гэта было апошняе паседжаньне Цэнтральнай рады БСДГ. БСДГ перастане існаваць. У сувязі з гэтым адзін са стваральнікаў Грамады Алег Трусаў выказаў сваё рашучае абурэньне дзеяньнямі кіраўніцтва і заявіў аб сваім выхадзе з выканкаму Грамады. Трусаў выступіў з адкрытым зваротам да сяброў ЦР БСДГ і сойму БНФ:

*"Паважаныя сябры!*

*Я хачу азнаёміць вас са сваёй палітычнай пазіцыяй, бо 5 чэрвеня я выйшаў па палітычных матывах са складу выканкама.*

*Справа ў тым, што паводзіны старшыні ЦР БСДГ Міколы Статкевіча, на маю думку, грунтоўна падрываюць аўтарытэт Грамады. Яго апошнія выказваньні ў сродках масавай інфармацыі і асабліва апошняе інтэрв'ю ў газеце "Наша Ніва" ад 13 траўня 1996 г. выклікаюць у мяне вялікую занепакоенасьць.*

*Мікола Статкевіч увесь час выступае з наступамі на пазіцыю БНФ, арганізацыі, якая ўзначаліла рух супраціўленьня таталітарызму на Беларусі.*

*Гэтая пазіцыя старшыні ЦР Грамады, які раней практычна прывёў да зьнікненьня з палітычнай арэны БЗВ, зневажае мой гонар як заснавальніка і сябра Сойма самай масавай на Беларусі грамадзкай арганізацыі БНФ "Адраджэньне". Статкевіч і яго бліжэйшае акружэньне фарсіруе раскол і зьнішчэньне Грамады праз яе зліцьцё з ПНЗ - партыяй, частка сяброў якой адмаўляе лепшыя прынцыпы беларускага Адраджэньня.*

*Бяз згоды выканкама і ЦР Грамады Статкевіч абвесьціў дату аб'яднаўчага з'езда 29 чэрвеня 1996 г., чым груба парушыў Статут Грамады. Дарэчы, у адпаведнасьці са Статутам партыі ЦР, калі яна абрапася 8 чэрвеня, можна прызначыць з'езд толькі праз месяц, гэта значыць не раней 8-9 ліпеня 1996 года.*

*Я прашу ЦРКК Грамады разгледзець гэтае пытаньне як парушэньне Статута.*

*Я не магу заставацца зараз у складзе выканкама і несьці палітычную адказнасьць за дзеяньні Статкевіча. Я прашу прабачэньня ў сяброў БНФ за ўсе выказваньні сп. Статкевіча, накіраваньня на раскол дэмакратычнага руху на Беларусі і спадзяюся, што Грамада не зьнікне з палітычнай арэны Беларусі, як партыя, што змагаецца за адраджэньне беларускай гісторыі і культуры, за незалежную і дэмакратычную Беларусь, дзе пераможуць прынцыпы сацыяльнай справядлівасьці.*

***АЛЕГ ТРУСАЎ, сябра ЦР БСДГ, сябра Сойму БНФ "Адраджэньне"."***

## НЯ ДАВАЦЬ СЯБЕ Ў КРЫЎДУ!

**Вынікам нашага знаходжаньня ў Польшчы сталася поўнае інфармаваньне палітычнай эліты і прадстаўнікоў прэсы аб дзейнасьці Народнага Фронту і сітуацыі на Беларусі.Перакананы, што гэта будзе мець канкрэтныя і досыць эфектыўныя наступствы і для БНФ.**

Але нас асабліва непакоіць танальнасьць некаторых публікацыяў у беларускай прэсе на тэму БНФ і Пазьняка асабіста.Да прыкладу, атаясамліваньне асобаў Лукашэнкі і Пазьняка ў артыкулах Фядуты -дакладна прадуманая акцыя з развілкай "патапіць" нацыянальна-дэмакратычную апазіцыю ў выпадку краху рэжыму. Зразумела, што на падобныя публікацыі трэба аператыўна рэагаваць. Тым больш што ў Фронце дастаткова людзей, якія валодаюць пяром, здольныя даць адпор падобным "аналітыкам". З Менску гэта рабіць прасцей, чымсьці з-за мяжы. Прынамсьці, ніводнае абразьлівае слова, ніводная з'едлівая рэпліка ў прэсе ў адрас БНФ ці Пазьняка не павінна застацца без адказу. Натуральна, "Советская Белоруссия"альбо "Рэспубліка" ня будуць друкаваць такія адказы - але ў дачыненьні да іншых выданьняў трэба дамагацца публікацыі. Тое ж тычыцца і выказаў прыдворных журналістаў і нават некаторых дэмакратаў з нагоды хвіліны маўчаньня памяці Дудаева. Магу засьведчыць, што ўсё, што рабіў і робіць Пазьняк і БНФ у Эўропе ўспрымаецца абсалютна нармальна і з вялікай павагай. І гэта той капітал, які, будзем верыць, у самай недалёкай будучыні дапаможа нашай краіне распачаць інтэграцыю ў Эўропу.

Адсюль вельмі выразна бачна, што інфармацыйная палітыка лукашэнкаўскага афіцыёзу (і ня толькі афіцыёзу) фармуецца ў Маскве. Дазволю прывесьці адно прыватнае назіраньне. Прагледзеўшы беларускую ( і ня толькі прэзідэнцкую) прэсу, я ні ў водным інтэрв'ю лідэраў дэмакратычных партыяў не знайшоў ні воднага слова падтрымкі ў бок БНФ і яго лідэра. У той час, як на працягу апошніх гадоў парламенцкая апазіцыя Народнага Фронту ўсяляк падтрымоўвала нованароджаныя партыі. Ці не здаецца гэта вам дзіўным?

Што тычыцца замежнага інфармацыйнага патоку, то відавочная станоўчая зьмена: БНФ ужо не падаецца як група нацыянал-радыкалаў, а выглядае як альтэрнатыва рэжыму Лукашэнкі.

**Сяргей Навумчык.**

## ЦІ ЗНОЙДУЦЬ УПРАВУ НА ЯДРАНЦАВА?

Супрацоўнікі праграмы "Радыё-2" Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі зьвярнуліся да начальніка галоўнага ўпраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта М.Падгайнага. Яны просяць аднавіць на працы свайго былога галоўнага рэдактара Уладзіміра Дзюбу, які быў звольнены вусным загадам намесьніка старшыні тэлерадыёкампаніі У.Ядранцава.На думку калектыва, Ядранцаў перавысіў свае паўнамоцтвы, парушыў статут кампаніі і КЗаП.Нагадаем, што перад гэтым У.Дзюба беспадстаўна быў арыштаваны менскай міліцыяй нібыта за ўдзел у акцыях пратэсту.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







# ДАСЬЛЕДАВАНЬНЕ

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ



**(Працяг. Пачатак на стар. 1)**

### РЭЖЫМ

Якія правы цяпер мае чалавек на Беларусі? Якія гарантыі правоў? Ніякіх. Можа хто нязгодны? Што ж, адгорнем разьдзел 2 Канстытуцыі "Асоба, грамадзтва, дзяржава" і паглядзім.

Артыкул 21. "Дзяржава гарантуе правы і свабоды грамадзянаў Беларусі, замацаваныя ў Канстытуцыі..." Няўжо "гарантуе"? І што засталося ад гэтых свабодаў?

Артыкул 23. "Усе роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў". Няўжо "усе роўныя"? І прэзідэнцкі заўгас Ціцянкоў і рабочы Антончык, да якога па рашэньню суда прыйшлі на кватэру апісваць маёмасьць за тое, што ён раскрыў махінацыі Ціцянкова?

Артыкул 25. "Дзяржава забясьпечвае свабоду і недатыкальнасьць і годнасьць асобы..." Няўжо "забясьпечвае"? І дэпутатам, якіх з лёгкай рукі Лукашэнкі батальён галаварэзаў зьбівае ў парламенце, і тым маладым людзям, старым і жанчынам, якіх сьпецназы і АМАПы зьбіваюць ботамі, дубінкамі і кулакамі на вуліцах за падняцьце нацыянальнага сьцяга?

"...Ніхто не павінен падвяргацца катаваньням, жорсткаму, бесчалавечнаму, альбо прыніжаючаму яго годнасьць абыходжаньню і пакараньню..." Як бы ня так, панове. Нагледзеліся мы ўжо на гэтае "ніхто", наслухаліся, начыталіся роспачных лістоў з "сьледчых ізалятараў", ведаем, як зьдзекаваліся там з В.Сядова, В.Сіўчыка, Ю.Хадыкі, з сотняў незаконна схопленых людзей 26 красавіка і 30 траўня, зь іх жонак, дзяцей і матак пад сьценамі турмы ў Менску, з украінцаў - грамадзянаў іншай дзяржавы.

Артыкул 28. "Кожны мае права на абарону ад незаконнага ўмяшаньня ў яго асабістае жыцьцё, у тым ліку ад замаху на таямніцу яго карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленьняў, на яго гонар і годнасьць." Няўжо "гарантуецца свабода меркаваньняў", калі нават Старшыні Вярхоўнага Савета Мечыславу Грыбу прэзідэнцкія стаўленьнікі не далі магчымасьці выступіць па дзяржаўным тэлебачаньні. Я не кажу ўжо пра апазіцыю, беларускую патрыятычную інтэлігенцыю ды іншых нармальных людзей, што не запабягаюць перад рэжымам. Якая "свабода меркаваньняў", калі "сьпецназ" б'е журналістаў дубінкамі па твары, калі незалежныя газеты вымушаны друкавацца за мяжой, а астатняя прэса, дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне манапалізаваныя прэзідэнтам, адкуль ён, як шаман, прамаўляе свае чатырохгадзінныя маналогі пра тое, які ён усенародна абраны і як будзе добра, калі Беларусь захопіць імперская Расея. Абмежаваньне свабоды слова і манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі - гэта грубае парушэньне Канстытуцыі і правоў чалавека!

Артыкул 34. "Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на атрыманьне, захаваньне і распаўсюджаньне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасьці дзяржаўных органаў, грамадзкіх аб'яднаньняў, аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцьці...

Дзяржаўныя органы, грамадзкія аб'яднаньні, афіцыйныя асобы абавязаныя даць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь магчымасьць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы". Няўжо такое права "гарантуецца" усім, у той час, калі асабістая ахова прэзідэнта на першамайскай дэманстрацыі нападае на тэлежурналістаў, адбірае касеты, разьбівае камеры, пагражае? Калі журналістаў Лукашэнка падзяліў на "сваіх" і "чужых" ("чэсных" і "нячэсных") і сам вырашае каго зь іх дапусьціць на прэс-канферэнцыю, а каго не? Якая там "інфармацыя", "матэрыялы", калі нават Генеральны пракурор ня можа даведацца, што гэта за "сьпецыяльны прэзідэнцкі фонд", куды якраз пайшлі грошы ад кантрабанды тавараў па зьдзелцы А.Лукашэнкі і фірмы "Торгэкспо". (Дарэчы, гэтым нанесены страты дзяржаве на 320 мільёнаў даляраў, пра што напісана мной у газеце "Пагоня" і М.Нікітчанкам у "Народнай Волі". Мной жа пісьмова з прыкладаньнем дакументаў інфармаваны Генеральны пракурор, Кантрольная палата і Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі. Факт агульнавядомы.)

Артыкул 35. Тут гаворыцца пра "свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня". Што гэта за "свабода " людзі Беларусі і ўвесь сьвет убачылі 24 сакавіка, 2 і 26 красавіка, 30 траўня. Прэзідэнтам былі груба парушаныя асноўныя правы людзей, грамадзянаў Беларусі, зьняважаныя іх гонар і годнасьць, створана пагроза здароўю і жыцьцю, парушаныя нормы міжнароднага права, калі дзеля запалохваньня беларусаў Лукашэнка запрасіў афіцэраў сьпецыяльнага аддзелу міліцыі зь іншай дзяржавы, зьвярнуўшыся ў Маскву. Ня дзіўна, што гэтак па-зьверску зьбівалі нашых людзей 26 красавіка.

Я ўжо не гавару пра ўсю пачварную нізкасьць гэтага прэзідэнцкага злачынства у 10-я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы, не кажу пра хамскі зьдзек з народу тых, хто ўкінуў яго ў попел радыяцыйнай сьмерці, хто падрыхтаваў і рыхтуе яго фізічную сьмерць.

Артыкул 38. "Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна выбіраць..." О, гэта мы добра ведаем чаго вартая "свабода выбіраць" асабліва на вёсцы, як дзейнічае "вертыкаль", выбарчыя камісіі, пракуроры, КДБ, міліцыя, як галасуюць, складаюць сьпісы выбаршчыкаў, як падлічваюць галасы і г.д.

Артыкул 41. "Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на працу..." Гэтае "права" асабліва добра адчуваюць тыя людзі, якіх звальняюць з працы (альбо не бяруць на працу) за прыналежнасьць да Беларускага Народнага Фронту. Я ўжо не кажу пра дзесяткі тысячаў беспрацоўных.

""Грамадзяне маюць права... на аб'яднаньне ў прафесіянальныя саюзы... і права на забастоўку". Гэтае "права" таксама добра ведаюць члены Свабоднага прафсаюза Беларусі, забароненага самавольствам А.Лукашэнкі, а "права на забастоўку" - работнікі Менскага метрапалітэна, забастоўка якіх у жніўні 1995 г. была задушана сілаю ўзброеннага АМАПа і сьпецназу, а забастоўшчыкі схопленыя, зьбітыя, інтэрнаваныя і звольненыя з працы.

Артыкул 42. "Асобы, што працуюць па найму, маюць права на ўзнагароджаньне за выкананую працу..." Так, "узнагароджваюць"... з затрымкай зарплаты на 4-5 месяцаў. Пра памер "узнагароды " і казаць няма чаго.

Артыкул 52. "Кожны, хто знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, абавязаны выконваць яе Канстытуцыю, законы і паважаць нацыянальныя традыцыі".

Артыкул 53. "Кожны абавязаны паважаць годнасьць, правы, свабоды, законныя інтарэсы іншых асобаў".

Пра павагу годнасьці і правоў можна нават і не гаварыць. З боку ўлады яна адсутнічае зусім. Тое ж і пра павагу да нацыянальных традыцыяў. Бачылі мы, як прэзідэнцкая раць зьневажае беларускія нацыянальныя сімвалы, беларускую мову, як зачыняе беларускія школы, зьнішчае беларускія падручнікі, цэнзуруе энцыклапедыі, разбурае беларускую сістэму адукацыі, здымае беларускія праграмы з радыё і тэлебачаньня, мяняе беларускія надпісы і г.д.

Першым, хто груба парушыў абавязак выконваць Канстытуцыю, стаў чалавек, які кляўся перад усім народам "выконваць яе" (арт. 99). За адзін год знаходжаньня на пасадзе прэзідэнта А.Лукашэнка дзесяткі разоў парушаў Канстытуцыю і правы чалавека на Беларусі. Канстытуцыйны суд прызнаў, што 11 указаў прэзідэнта парушаюць Канстытуцыю. Але рэжым адмовіўся выконваць рашэньні Канстытуцыйнага суда.

Паўстае пытаньне, што сталася на Беларусі, што тут за ўлада, што за дзяржава, калі парушаюцца Канстытуцыя і законы, калі няма свабоды слова і друку, а сродкі масавай інфармацыі манапалізаваны адной групай прэзідэнцкай улады, калі забаронены вольныя прафсаюзы і забастоўкі, разбураецца беларуская школа і культура, здаюцца чужой дзяржаве - Расеі - эканамічныя каштоўнасьці краіны: транзіт, мытная справа, межы, нафтахімічны комплекс, прадпрыемствы і г.д., калі немагчыма правесьці свабодныя дэмакратычныя выбары і ніхто ня мае гарантыяў бясьпекі ад палітычнага перасьледу, грубага парушэньня яго чалавечых правоў, зьнявагі чалавечай і нацыянальнай годнасьці. Беларусы, якіх 80 працэнтаў усяго насельніцтва, пастаўлены ў становішча нацыянальнай меншасьці. Адчуваецца перасьлед усяго беларускага, нянавісьць прэзідэнцкіх уладаў да беларускай мовы і культуры, да людзей, што шануюць Беларусь, імкненьне ўсё беларускае зьнішчыць і затаптаць. І ўсё гэта пачалося зь лета 1994 года - з часу ўступленьня Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта Беларусі і захопу расейскімі сьпецслужбамі галоўных пасадаў і вузлавых пазіцыяў у сістэме кіраўніцтва краіны.

Сутнасьць рэжыму найлепш выказаў сам Лукашэнка ў інтэрв'ю карэспандэнту нямецкага часопіса "Гандэльсблят", дзе ён прызнаўся ў сваіх сімпатыях да гітлераўскага "парадку" 30-х гадоў, які ён лічыць за ўзор для свайго "прэзідэнцкага" кіраваньня на Беларусі.

Фашызм А.Лукашэнкі, які раней быў афіцэрам КДБ (палітруком) у памежных войсках, намесьнікам начальніка турмы ў Оршы і г.д. грунтуецца на сьветапогляднай мітусьні тых групаў савецкага кадэбісцкага "ахоўніцтва", што, не прымаючы Брэжнева і афіцыёз, хапаліся за панславізм, імперскую ідэю Расеі, змагаліся з "чуркамі" (г.зн. людзьмі з Азіі), "жыдамасонамі" і да т.п. Цяпер яны прыдумалі фантом "славянаў" (як некалі Гітлер "арыйцаў") і "триединую Русь" (формула русіфікацыі Украіны і Беларусі). Фашызм Лукашэнкі кадэбісцкага імперскага паходжаньня, таму ён выразна антыбеларускі, антынацыянальны. Гэтаму фашызму не патрэбна Беларусь як незалежная дзяржава, не патрэбна беларуская мова і беларуская культура, не патрэбны носьбіты гэтай мовы і культуры.

Падмацаваныя такія сьветапоглядныя паводзіны яшчэ і тым, што якраз расейскія сьпецслужбы на Беларусі і КДБ эфектыўна падтрымалі Лукашэнку на выбарах 1994 г. і прывялі яго да ўлады. Гэта чалавек Масквы і праводзіць на Беларусі маскоўскую імперскую палітыку. Тут і знаходзіцца адказ на зьдзіўленыя пытаньні наіўных заходніх палітыкаў і журналістаў - маўляў, як гэта прэзідэнт Беларусі выступае супраць незалежнасьці сваёй краіны? Яны ніяк ня могуць гэтага ўцяміць. Яны ня могуць зразумець маніякальнага авантурызму. Не усьведамляюць, што Лукашэнка захацеў стаць прэзідэнтам Расеі ("нового союзного государства"). Таму ён імкнецца каб "союз двух" стаў адной дзяржавай. Тады трэба правесьці толькі прэзідэнцкія выбары. Лукашэнка ўжо і грошы прызапасіў на выбары: і прэзідэнцкі банк, і прэзідэнцкі фонд стварыў.

Ельцыну не з рукі такі паварот, таму ён, як бачыце, дбае пра суверэнітэт дзьвюх краінаў, а руская дыпламатыя і разьведка паўсюдна паўтараюць, што як толькі Ельцын выйграе выбары, то ён быццам бы пакіне гульню ў інтэграцыю.

Але гэтага ня будзе. Які б урад не сядзеў у Крамлі, як бы ён сябе не называў: дэмакратычным, камуністычным, рускім, незалежным і да т.п. - ён заўсёды будзе праводзіць імперскую захопніцкую палітыку адносна Беларусі. Заўсёды, пакуль існуе Расея як імперская краіна. Беларусь ляжыць у зоне яе стратэгічных экспансіянісцкіх інтарэсаў на Захадзе. Беларусь для Расеі - транспартны, таварны калідор у Эўропу. Для расейскай ваеншчыны тут вузлавы стратэгічны плацдарм ракетаў і мабільных сілаў, зь якога можна трымаць у напрузе Польшчу, Украіну, Летуву і марыць пра аднаўленьне Савецкага Саюза і расейскай імперыі.Ня трэба супакойваць сябе, што гэта авантура, што Расея, якая імкнецца зноў стаць вялікай імперыяй, ужо ня ў стане ёй быць. Гэта так, але ў гісторыі найбольш небясьпечнымі пры ўладзе былі якраз вар'яты і авантурысты.

### АНЭКСІЯ

Падпісаньне 2 красавіка дамовы аб саюзе паміж Расеяй і Беларусьсю і ёсьць тая небясьпечная авантура, якая можа прынесьці вялікія няшчасьці нашаму народу. З яе тэксту добра відаць план расейскай анэксіі Беларусі і здрады Лукашэнкі. Першы этап павінен закончыцца ў 1996 годзе. Гэта перыяд уніфікацыі і стварэньня грунту для ліквідацыі незалежнай Беларусі. Плануецца уніфікаваць з Расеяй транспартную сістэму, інфраструктуру, мытную справу, статыстыку, пенсійнае і сацыяльнае заканадаўства, пытаньні міграцыі і грамадзянства ( каб кожны са 150-мільённай Расеі мог спакойна з поўным правам прыехаць у Беларусь, прыўлашчваць нашу маёмасьць, піць гарэлку і "пользоваться русским языком". Адпаведна каб і беларусы маглі добраахвотна выехаць у Сібір.)

У гэтым жа годзе вырашаецца пытаньне аб уніфікацыі беларускіх узброеных сілаў і агульнай ахове межаў Расеі і Беларусі, а таксама аб уніфікацыі сістэмы адукацыі. Падводзіцца база для стварэньня адзінай валюты.

Другі этап пачнецца ў 1997 годзе і будзе пазначаны правядзеньнем усеагульнага рэферэндуму па далучэньні да Расеі.

Трэці этап не апісаны, бо той, хто складаў і падпісаў гэты план, не сумняваўся ў сваёй перамозе на рэферэндуме, калі беларусы будуць задушаны ўласнымі рукамі, а іхняя дзяржава перастане існаваць. Аднак трэці этап усё ж праглядваецца ў тэксьце пакта Лукашэнкі - Ельцына. Гэта этап вынарадаўленьня беларускай нацыі пры дапамозе рычагоў міграцыі, інвазіі рускай імперскай культуры і сістэмы рускай школьнай і вышэйшай адукацыі.

Перад намі шматгадовы захопніцкі план. Да гэтага часу яго пасьпяхова ажыцьцяўлялі. Нам, беларусам, стварылі імідж самага нікчэмнага народа Эўропы ( і гэта пры нашай магутнай гістарычнай культурнай традыцыі). Аднак падпісаньне пакту Лукашэнкі - Ельцына сарвала заслону з акупацыйнай палітыкі Масквы ў дачыненьні да Беларусі. Пашыраецца рух супраціўленьня акупацыі і прамаскоўскаму рэжыму Лукашэнкі. Можна не сумнявацца, што імперская Расея падавіцца Беларусьсю і прайграе тут сваю халодную вайну. Ельцын зрабіў фатальную памылку, груба замахнуўшыся на мірную Беларусь і зьвязаўшыся з, мякка кажучы, неўраўнаважаным і непрадказальным чалавекам.

**(Працяг будзе)**




**14 чэрвеня**

1900 г. У вёсцы Несьцяровічы (цяпер - Сьвіслацкі раён) нарадзіўся Міхась Забэйда-Суміцкі, сусьветнавядомы сьпявак.

**15 чэрвеня**

1831 г. У вёсцы Селішча (цяпер - Карэліцкі раён) нарадзіўся Вінцэсь Каратынскі, выбітны перакладчык, паэт, журналіст.

**16 чэрвеня**

1834 г. Нарадзіўся Аляксандр Ельскі, славуты гісторык, краязнаўца, этнограф.

**17 чэрвеня**

1793 г. У Горадні распачаў працу апошні сойм Рэчы Паспалітай (вядомы ў гісторыі як "маўклівы"),які прывёў да трэцяга падзелу дзяржавы.

1938 г. Расстраляны Аркадзь Смоліч, выбітны вучоны, віцэ-прэм'ер Рады БНР, міністр асьветы, пасьля - земляробства. Аўтар унікальнага падручніка "Геаграфія Беларусі".

**19 чэрвеня**

1924 г. Нарадзіўся Васіль Быкаў, народны пісьменьнік Беларусі. З 1947 па 1949 і з 1956 па 1978 жыў і працаваў у Горадні.

**20 чэрвеня**

1566 г. Нарадзіўся Жыгімонт III Ваза, вялікі князь і кароль. Садзейнічаў заключэньню Берасьцейскай царкоўнай уніі, спрыяў контррэфармацыі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

